Супольнасьць
БЮЛЕТЭНЬ КААРДЫНАЦЫЙНАЕ РАДЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК
25 Сакавіка 1989 № 2

# 2-гі Вальны Сойм

* * *

У гэтым нумары мы зьмяшчаем толькі асобныя, на наш погляд самыя праблемныя і інфарматыўныя прамовы з II Вальнага Сойму. Рэдакцыя перапрашае, што ня змажа надрукаваць усе выступленьні.

На II Вальны Сойм зьехаліся беларусы БССР, Прыбалтыкі, Масквы. З прывітаньнямі ад віленскае "Сябрыны" выступіў А.С.Анішчык; ад Рады "Саюдзіса"- старшыня Літоўскага фонда культуры Ч.Кудоба/ларэчы, па-беларуску/; ад імя украінскіх сяброў С.Набока. Пасьля з кароткай інфармацыяй аб стане беларускага руху ў Прыбалтыцы выступілі Сяргей Кузьняцоў /Рыга, "Сьвітанак"/, Анатоль Лапшаў /Талін/. Генадзь Прыбытка з маскоўскай суполкі "Пагоня" запэўніў, што масква яшчэ пачуе беларусаў.

Справаздачу па дзейнасьці сэкцый "Школа", "Экалогія", "Ахова помнікаў", "Дэмакратызацыя" далі адпаведна Г.Барвенава /Менск, "Талака"/, Э.Жылінскі /Менск, "Сьвітанак"/, С.Вітушка /"Талака", Менск/, В.Івашкевіч /Менск, "Талака"/.

## Салідарнасьць

З. ПАЗЬНЯК

Дарагія сябры! мы сёньня сабраліся на гасьціннай зямлі пад добрым знакам - пад знакам Пагоні, якая зьяўляецца адзіным гэрбам для беларускага і літоўскага народаў. Мы сабраліся на той зямлі,зь якой вырастаюць нашыя агульныя культурныя і гістарычныя карані.Мы павінны ўспомніць, што ў нас была доўгая і слаўная адзіная гісторыя з братнім літоўскім народам. Няхай гэта стане для нас зарукай убачыць і нашую агульную пэрспэктыву.

Вы ведаеце, што становішча ў Беларусі нашмат адрозьніваецца ад становішча ў Літве.Калі ў Прыбалтыйскіх рэспубліках адбыліся зьмены, і народы Прыбалтыкі здабылі шмат значнага для разьвіцьця сваёй культуры, эканомікі, то ў нас на Беларусі не адбылося ніякіх зьменаў. Адзінае, чаго мы зазналі — гэта газаў, дубінак і вадамётаў.

Наш рэспубліканскі ўрад і ў першую чаргу ідэалягічная служба сталася найбольш рэакцыйнай у дачыненьні да ідэалаў перабудовы і да тых ідэалаў, якія засьведчылі франты Прыбалтыкі. Мы, чытаючы рэспубліканскую прэсу, ня раз бачылі, як тонка падводзіцца ідэя пад тое,каб пасварыць нас з прыбалтыйскімі рэспублікамі, каб спарадзіць антыпатыю да франтоў. Але наш народ не паддаецца на гэтую правакацыю, і мы ня маем ніводнага сьведчаньня, што людзі пайшлі на паваду чарнасоценнай прэсы.

Але мы глядзім у будучыню аптымістычна: у нас ужо існуе Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", існуе шмат групаў падтрымкі, і гэты рух шырыцца. Ідэалягічныя ўлады рэспублікі не прызналі Беларускі Народны Фронт, стараюцца ўсяляк яго дыскрэдытаваць, дыскрэдытаваць усялякі самадзейны рух,але гэта не ўдаецца. Рух шырыцца і будучыня за ім.

Той урад, які паўстаў супраць сваёй інтэлігенцыі - ня мае будучыні. Тая палітыка, якая вядзецца супроць сваёй моладзі, якая накіравала на яе войскі, міліцыю, дубінкі і газ — тая палітыка ня мае будучыні. Тая палітыка, якая не забясьпечыла моладзі магчымасьць свабодна праводзіць свае сходы на тэрыторыі рэспублікі - тая палітыка антыперабудоўчая.

І я ўпэўнены, што сілы перабудовы ў нашай рэспубліцы пераможуць. Для гэтага трэба некалькі варункаў: па-першае, упэўненасьць у перабудове, любоў і ахвярнасьць да свайго народу і да нашых сяброў. Мы павінны ведаць,што становішча, якое складваецца зараз, абавязвае нас быць салідарнымі з нашымі сябрамі, і будучыня нашая ў адзінстве.

## Палітычнае самавызначэньне

В. ВЯЧОРКА

Нашая агульная мэта — гэта стварэньне дэмакратычнага грамадзтва. Такое грамадзтва павінна грунтавацца на прынцыпах сувэрэнітэту асобы і сувэрэнітэту нацыі.Сувэрэнітэт нацыі ўвасабляецца ў сувэрэнітэце нацыянальнай дзяржавы.

Што такое наогул сувэрэнітэт? Гэта вяршэнства нацыі ў сваім палітычным самавызначэньні, у сваіх унутраных і зьнешніх справах. Як вынікае з нашае Канстытуцыі, БССР -- гэта сувэрэнная дзяржава, якая карыстаецца ўсімі належнымі правамі. У рэальным жыцьці трошкі ня так. Вы добра ведаеце,што на тэрыторыі рэспублікі ў разе разыходжаньня канстытуцыйных і заканадаўчых нормаў Саюза і канстытуцыйных і заканадаўчых нормаў Рэспублікі, дзейнічаюць Саюзныя. Што датычыць сувэрэнітэту наогул, я, ня будучы юрыстам, сказаў бы так: нельга быць трошкі цяжарнай, сувэрэнітэт альбо ёсьць,альбо яго няма. Канцэпцыя абмежаванага сувэрэнітэту брэжнеўскіх часоў павінна быць выкінутая на сьметнік гісторыі. Мы павінны прызнаць,што на сёньня БССР сувэрэнітэту ня мае, і намеціць канкрэтныя рэальныя шляхі яго аднаўленьня.

Якім ініцыятыўнай групе Канфэдэрацыі бачыўся сувэрэнітэт рэспублікі? У складзе СССР, на прынцыпах карэннай перабудовы Саюзу. Тое, што мы маем сёньня -- гэта фактычна унітарная цэласная дзяржава, надзвычай цэнтралізаваная ў эканамічным, палітычным, культурным і ўсіх іншых плянах з пэўнымі маскіровачнымі прыкметамі аўтаноміі саюзных рэспублік. Рашучы крок у кірунку ад гэтай сталінскай цэнтралізатарскай мадэлі зрабілі нашыя прыбалтыйскія суседзі. Думаю, насьпеў час і нам паставіць гэтае пытаньне.

Саюз ССР, між іншым, па думцы самога стваральніка гэтае ідэі, замысьляўся як фэдэратыўна-канфэдэратыўная форма. У друку зьявілася палеміка наконт таго, што лепш - фэдэрацыя ці канфэдэрацыя. Зьявіліся азначэньні: канфэдэрацыя - гэта "рыхлая" форма фэдэрацыі; зьявіліся нейкія эмоцыі, якімі юрысты не павінны злоўжываць. Справа ў тым, што канфэдэрацыя -- гэта від фэдэрацыі, які мае на ўвазе значна большую свабоду суб'ектаў гэтага аб'яднаньня.Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, як вынікае зь яго назвы - гэта па форме якраз аб'яднаньне сувэрэнных дзяржаваў, якія каардынуюць сваю зьнешнюю ды вайсковую палітыку,могуць каардынаваць эканамічную і культурную палітыку на падставе агульнае згоды, свабоднага выбару.Я нагадаю, што пісаў У.І.Ленін у 1922г.

/працяг на ст.2/

